Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 24. Вільня, Чацьвер, 9-га красавіка 1925 г. Год I.

У гэтым нумары 6 страніц.

## Арышт 1368 беларусаў у Наваградчыне.

Як паведамляе ПАТ, у сувязі з ажывіўшымся бандыцкім рухам на абшары ўсходніх ваяводзтваў, паліцыя начала рабіць вялізарныя аблавы перад усім у Наваградчыне і Валыншчыне, шукаючы аружжа і арыштоўваючы падазроных асоб. Арыштавана шмат людзей, якія былі ў зносінах з бандытамі і рабілі напады.

Так кажуць афіцыяльна. На дзеле-ж у Наваградчыне арыштаваны рад беларускіх нацыянальных дзеячоў, ня маючых з усім гэтым нічога супольнага

Як нас паведамляюць, пад відам „барацьбы з бандытызмам“ у хуткім часе—з ініцыятывы пана Смульскага — будуць распачаты рэпрэсіі і процi правадыроў беларускага руху ў Віленшчыне.

*

Падаем жменю даных аб арыштах у Наваградчыне, атрыманых намі з першых рук намейсцы.

У ноч з 1-га на 2-га красавіка і ў дзень 2/IV адбыліся па ўсей Наваградчыне масавыя вобыскі і арышты. Лічба заарыштаваных—па чутках з Наваградку—даходзіць **1368 асобаў**. Пастрадала значная частка асобаў, якія **прыймалі чынны ўдзел у працы па складаньню дэклярацыяў на беларускую школу.** Заарыштаваны, паміж іншымі, кандыдат у дэпутаты Сойму па Наваградчыне Сабалеўскі, які жывець у Стоўпцах. У Наваградзкую турму да 6/IV пасаджана больш 140 асоб. Вобыскі адбыліся амаль не ўва ўсіх беларусаў, былых вучыцялёў, а таксама ў некаторых сьвяшчэньнікаў.

Вобыскі не абмінулі нават і тых вучыцялёў—беларусаў, якія служаць у польскіх урадовых школах. Некаторых з іх заарыштавалі, як Навумовіча, Бітуса і Кокарэку, — вучыцялёў польскае школы ў Ярэмічах.

У Клецку ў гэты-ж час заарыштавана была вучыцелька Беларускае Гімназіі, Малойла.

## Барацьба завастраецца.

Ратаваньне Польшчы ад цяжкога эканамічнага крызісу — вось справа, якая цяпер займае галовы кіраўнікоў Польскае дзяржавы ў няменшай меры, як справа нямецкае пагрозы заходнім граніцам Польшчы. Але, паскольку ў апошняй справе ўсе польскія партыі выяўляюць поўную аднадумнасьць, клічучы народ бараніць аружжам тое, што Вэрсальскі Трактат дараваў Польшчы, адабраўшы ў Нямеччыны,—пастольку ў справе ратаваньня краю ад эканамічнага крызісу Польшча дзеліцца на два вялікія лагеры, якія вядуць між сабой вострае змаганьне.

І гэта—зусім зразумелая рэч. Бо-ж праграма „эканамічнае санацыі“ Польшчы, апрацаваная п. Грабскім (—глядзі ст.: „Экамамічны Крызіс у Польшчы і ўрадавая праграма санацыі“), зусім выразна імкнецца ўвесь цяжар гэнага „ратаваньня“ перакласьці на плечы працоўных масаў. П. Грабскі вымагае ахвяр *не ад паноў фабрыкантаў і абшарнікаў*, якія зарабляюць і хочуць далей зарабляць ня менш, як 100—300 процантаў ад уложанага ў прамысловасьць капіталу (—гэта ў сваім часе сьцьвярдзіла „Gazeta Warszawska“), але — *ад работнікаў і сялян*, якія павінны зрачыся часьці свайго і так жабрацкага заробку, працаваць па фабрыках замест васьмёх—дзесяць гадзін у дзень, ды плаціць польскім фабрыкантам за рэчы першае патрэбы даражэй, чым тыя-ж рэчы каштуюць заграніцай.

Вось асноўныя пункты гэтае праграмы. Але хіба кожнаму ясна, што працоўныя масы Польшчы на гэткія ахвяры дабравольна ня хочуць ісьці. Цэлы рад забастовак работнікаў у галоўных прамысловых цэнтрах Польшчы, а цяпер і батрацкая забастоўка — вось адказ на спробу паменшыць плату, або павялічыць дзень працы. Фабрычны работнік, дворны парабак ці вясковы паддзёньнік *ня маюць ужо з чаго ўступаць*, бо пры сучаснай страшэннай дарагоўлі гэта для іх немагчыма.

Мы не сумляваемся, што Сойм і Сэнат прымуць эканамічную праграму п. Грабскага: у іх пераважаюць элемэнты, якія асабіста зацікаўлены тым, каб цяжары „эканамічнае санацыі“ нясьлі не заможныя станы — з сваіх лішкаў, а найбяднейшыя — з сваей асабістай працы. Але, ў сувязі з гэтым, у Польшчы ўжо пачаўся глыбокі раскол паміж яе „вярхамі“ і „нізамі“, яшчэ так нядаўна згоднымі і аднадумнымі. А на грунце супярэчнасьці клясавых інтарэсаў узмацуецца і завастрыцца барацьба паміж палітычнымі партыямі, якія бароняць інтарэсы сваіх клясаў.

Раскол сягае і ў глыб яшчэ ўчора аднапалітных партыяў. Прыклад „Вызваленьня“, з якога ўцякла ўся радыкальная абшарніцкая інтэлігенцыя пасьля рэзалюцыі сялянскага зьезду гэтае партыі аб адабраньні дворнае зямлі бяз выкупу, — вельмі красамоўны. Ня менш красамоўны і сьцьверджаны даўно адыход работнікаў ад партыі П. П. С., на вярхох якое, як ведама, зьвіла сабе моцнае гняздо тая-ж радыкальная шляхоцкая інтэлігенцыя.

Дый інакш і быць не магло. У канстытуцыйнай дзяржаве кожная палітычная партыя—гэта прадстаўніца тэй ці іншай клясы, інтарэсы якое партыя бароніць у законадаўчых установах і ў складзе ўраду. Так яно ёсьць і ў Польшчы, і ад таго, у чыіх руках будзе польскі ўрад, будзе залежаць і тое, якая кляса мае плаціць за „эканамічную санацыю“. Вось, чаму і ў Сойме, і па-за Соймам усё больш абвастраецца партыйная барацьба; вось, чаму польскія *палітычныя* партыі выяўляюць ўсё ярчэй сваё *клясавае* аблічча,—чаму чужыя клясава элемэнты ўцякаюць з сялянскае партыі „Вызваленьня“ і т.п.

Той сацыяльна-палітычны працэс, які перажывае Польшча, ня мог не адбіцца і на грамадзянстве і палітычных арганізацыях т.-зв. „нацыянальных меншасьцяў“. Кудой ісьці і што рабіць?

Для нас, беларусаў, як народу перад усім працоўнага, дарога ясная,—і мы ўжо нядаўна зачапілі гэтае пытаньне ў арт. „Бяз выкупу“. Аднак, трэба сабе ясна здаць справу з таго, што беларускае палітычнае прадстаўніцтва — Беларускі Пасольскі Клюб — мае ў сваім складзе сацыяльна не аднаклітыя элемэнты. І паскольку ў чыста нацыянальных пытаньнях у Клюбе заўсёды істнаваў адзіны, згодны фронт, пастолькі фронт гэты немагчымы, калі прыдзецца выбіраць мейсца ў ўсё больш разгараючайся сацыяльнай барацьбе ў Польшчы.

Ня думаем, каб у нашым Пасольскім Клюбе былі элемэнты, якія занялі-б *варожае* становішча ў адносінах да працоўных масаў Польшчы, што змагаюцца ў гэты мамэнт з сваей „радзімай“ буржуазіяй за палітычную ўладу. Але думаем, што ня ўсе прадстаўленыя ў гэтым-жа Клюбе групы і кірункі адважыліся-бы ясна і адкрыта *далучыцца* да польскіх працоўных масаў, зьвязаць сваю беларускую справу з справай перамогі гэных масаў над буржуазіяй. Сучасныя абставіны завастраючайся клясавай барацьбы адаб'юцца і ў беларускім парлямэнтарным прадстаўніцтве, выяўляючы два кірункі: адзін—*актыўна-змагарны*, другі—*пасыўны*, ці *нэўтральны*.

Жыцьцё—мацней за ўсе штучныя палітычныя камбінацыі. І тое самае жыцьцё, якое *прымусіла* ў свой час усе беларускія групы й кірункі ісьці *адзіным нацыянальным фронтам*, цяпер вымагае перагляду гэтага становішча, трэбуе вырашэныя пытаньня аб *магчымасьці ці немагчымасьці адзінага сацыяльнага фронту* ў нашым парляманцкім прадстаўніцтве.

**ГРАМАДЗЯНЕ! Усё яшчэ сярод нашых падпішчыкаў—многа неакуратных даўжнікоў!**

**Памятайце, што газэта—гэта вашая агульная ўласнасьць, якая істнуе за складаную вамі падпіску! Дык кожын, хто адчувае патрэбу чытаць родную сваю газэту, хай памятае і свой абавязак перад ёй!**

**Прысылайце акуратна падпіску! Намаўляйце да гэтага суседзяў і знаёмых!**

**Каму не пад сілу падпісацца на газэту аднаму,—падпісвайцеся ўскладчыну!**

## Франка-нямецка-польская палітыка п. Чэмбэрлена.

Лёндanскі карэспандэнт „Robotnika“ падводзіць ітог колькі-тыднёвай кампаніі, якая вялася ў Эўропе навакол нямецкіх прапазіцыяў аб зьмене польска-нямецкай граніцы і—у справе бясьпечнасьці Францыі.

Чэмбэрлен у сваіх прамовах у парляманце выразна заявіў:

1) Што для Англіі перад усім важна забясьпечыць нямецкія граніцы на захадзе—ніколі не дапусьціць, каб процілежныя берагі Францыі, Бэльгіі і Галяндыі апынуліся пад уладай **аднэй** магутнай мілітарнай дзяржавы;—аб гэтае йшло Англіі — ува ўсіх тых войнах, якія яна вяла ў працягу вякоў, пачынаючы ад гішпанккага Філіппа II, канчаючы Вільгельмам II...

2) Што Англія ня можа згадзіцца, каб гэткай магутнай мілітарнай дзяржавай, трымаючай пад сваей уладай (бо-ж у саюзе з Бэльгіяй!) гэтае процілежнае Англіі ўзьбярэжжа каналу, была Францыя... Каб аслабіць яе сілу, трэба зьвязаць яе ўзаемным дагаворам з Нямеччынай, якая—разам з Галяндыяй зраўнаважыць сілу саюзу Францыі з Бэльгіяй...

3) Што-ж датычыць польска-нямецкіх адносінаў, дык яны не датычаць безпасярэдна Англіі, і найлепшая англійская палітыка зьмяшчаецца ў тым, каб Польшча і Нямеччына самі зразумелі ўзаемную какарысьць ад мірнага суседзкага сужыцьця, і каб зьлі-

ў „Часовую Беларускую Раду“, якая мелася прадстаўляць беларускую грамадзкую палітычную думку....

**У мамэнт ліквідацыі Рады з „выбраўшых“ яе сяброў яе аставаўся толькі адзін „доктар“!**

### Зьменнасьць „обставай“ ласкі.

Калі вядомы Валэйша пайшоў на службу да палякоў, ягоны прыяцель, п. Обст, аддаў да яго ўжытку сваю „паважаную“ газэту „Dzien. Wil.“, і Валэйша зьмяшчаў тамака розную ілжу аб беларускіх дзеячох. Пасыланыя Обсту пісьмы і пратэсты проці гэных выдумак двух прыяцеляў знаходзілі сабе мейсца... ў рэдакцыйнай карзіне дзеля сьмяцьця!

Цяпер, калі ўся „полёнофільская“ работа Валэйшы, ня гледзячы на падтрыманьне ня толькі Обста, але і „вышэйшых“ за яго, правалілася, а Валэйша аказаўся выкінутым ня толькі з былай Павлюкевічаўскай „Тымчасовай Рады“, але і з кіраўніцтва „Грамадзянскага Сабраньня“,—дык улада зачыніла „Грам. Сабраньне“, а Обст першы пачаў „лягаць“ свайго старага таварыша Валэйшу, якога раней рэкамандаваў польскаму грамадзянству, як „ідэйнага беларуса-полёнофіла“. **Цяпер** Обст ужо паўтарае рэвэляцыі беларускіх газэт аб крымінальным прошлым Валэйшы, прычым выяўляецца, што Обст лепей ведае прошлае гэнага крыміналіста, чым беларусы: паводле „Dzien. Wil.“, **Валэйша „ад 1901 да 1912 г. быў пяць разоў караны судом за фальшаваньне дакумэнтаў і засуджаны агулам на 11 гадоў папраўчага вастрогу ў Вільні і Харкаве.** Чатыры разы адбыўся над ім суд з учасьцем прысяжных, і адзін раз—у Харкаве — судзіў яго акружны суд“.

Пры нагодзе Обст, як звычайна, лжэць, быццам Валэйша прыняты ізноў беларускім ідэйным грамадзянствам з грам. Луцкевічам на чале. Шчыра жадаем п. Обсту, каб польскае грамадзянства зрабіла з ім урэшце парадак так, як беларускае—з Валэйшаю.

# Аб чым пішуць.

### Мурашка гаспадарыць у Польшчы!

Пад гэткім загалоўкам „Kurjer Wileński“, орган даволі памяркоўных польскіх дэмакратаў, надрукаваў надовячы перадавіцу, адгукнуўшыся на дзікае забойства паліцыянтам двух палітычных вязьняў — Вечаркевіча і Багіньскага.

У стацьці гэтай, паміж іншым, чытаем:

„Двух людзей, жыцьцём якіх распарадзіліся найвышэйшыя ўлады дзяржавы,—гэтых безбаронных і знаходзіўшыхся пад апекай права людзей, якія прадстаўлялі прадмет замены, — забівае бяз ніякага сумляваньня, з дурным трыумфам у жэсьце, imć pan Muraszko.

Суд і дзяржаўныя ўлады пастанавілі інакш. Але што-ж гэта пана Мурашку абыходзе? Ён гаспадарыць у Польшчы, а ня нейкія там суды Найясьнейшай Рэчыпаспалітай! Гэтак даўней адмаўляўся ад паслухмянасьці закону і загадам крэсавы магнат ці ваявода, цяпер часы зьмяніліся—**пшодовнік**! Дэмакратызуецца польскае грамадзянства і... заўсёды таксама разумнее: пасьля і ў часе, і перад шкодай, якую само сабе робе.

Дык, што пана Мурашку да гераічнага забойства везеных праступнікаў папхнулі тыя, што яму кожын дзень загадвалі чытаць, што польскі ўрад—благі і дурны, бо выпускае з краю здраднікаў, і што з прычыны гэткае агітацыі пан Мурашка ўбачыў сябе ў арэоле героя (а мо' толькі ўласьніка немалых грошы?),—у гэтым нямашака нічога дзіўнага. Але, што розныя пачцівыя буржуі сквапна зьбіраюць ахвяры на сям'ю (чытай: для самога Мурашкі),—дык гэта ёсьць праява ў роўнай меры здумяваючая, як агідна сумная. Людзі, сяк-так умыслова разьвітыя, падтрымліваюць злачынства, даюць за яго нагароду, цешацца з яго, зьбіраюць грошы для бандыта, які забівае безбаронных, афіцыяльна везеных для чужой дзяржавы, блізу заложнікаў!..

А што сказалі б яны, калі-б бальшавікі пазабівалі палякоў (бальшавікамі лічаных за здраднікаў), везеных у Польшчу пад апекай канвою?

Дык чаму-ж абураюцца на нападаючых на двары бандытаў? Дзеля чаго для іх ня зьбіраюць ахвяр? Ці не разумеюць, што такімі „нагародамі“ прывучаюць мала асьвечаныя масы да непашаны, да таптаньня закону, ураду і ўлады? Што ўпаіваюць у насяленьне ахвоту да самасуду, які-ж заўсёды можа пакіравацца проці зусім бязьвінных людзей,—бо-ж ня трэба даказваць, што тое, што зьяўляецца віной і праступкам у вачох аднае катэгорыі людзей, гэтае самае ёсьць цнотай у вачох другіх. Мурашкавы ўчынкі найлепшы доказ гэтага“.

Нарысаваўшы абраз, як пасьля судовага прысуду будуць з Мурашкі рабіць „героя“, аўтар стацьці кажа:

„Так, так: незраўнаважаны і неасьвечаны народ цешыцца, калі ў яго гаспадарыць ... пан Мурашка“!..

На жаль, у нашым „крэсавым“ жыцьці такім „Мурашкай“—ведама, у адносінах да ненавісных „інародцаў“,—зьяўляецца чуць-што ня кожны агент улады, перакананы, што за нарушэньне закону **на шкоду „інародцаў“** яму нічога благога ня станецца. Прыклад: праступная адмова цэлага раду гмінных войтаў сцьвярджаць подпісы на дэклярацыях аб **беларускіх** школах (—імёны такіх войтаў будзем публікаваць!). Атмасфэра штодзеннага нарушаньня закону ў дробных справах спарадзіла і ўсіх гэных малых і вялікіх „Мурашак“!..

### „Jedność narodowa“.

Орган крайніх радыкалаў „Jutro“ вельмі пераважна падводзіць ітог таму банкруцтву польскай лявіцы, якая ў аканчальным выніку стварае на нашых вачох тое, што на красамоўнай мове эндэцыі завецца „jednością narodową“, але што шмат прасьцей і тачней трэба назваць **трыумфам рэакцыі**...

„Пропасьць, што разьдзяляе польскую правіцу і лявіцу, звужаецца, зьмяншаецца, амаль ня зьнікае на нашых вачох“.

„Лёзунгі і праграмы (лявіцы, а не правіцы!) трацяць сваю тактычную вартасьць, пераходзячы да партыйных архіваў“.

Запраўды-ж—

„Ідэя фэдэралізму... ня служыць ужо больш баявым лёзунгам палітычным лагерам. Лявіца спакойна глядзіць на ўніфікацыю (бюрократычнае аб'яднаньне) „крэсаў“ з этнаграфічнай Польшчай.

„За гэта“ —

„правіца раскрывае свае абоймы ненавіснаму калісьці Тугутту,—каб толькі ён застаўся ў габінэце братоў і шваграў Грабскіх.

П.П.С. у цэлым радзе небясьпечных мамэнтаў ратуе ўрад Грабска ад упадку, а эндэцыя за шчодрыя „адшкадаваньні“ для прамыслоўцаў—згаджаецца на... высокія падаткі.

„Так творыцца „jednosć ludowo-narodowo socyjalistyczna“...

Яшчэ адзін крок—і здзейсьніцца лятуценьне польскага паэта—

„Jeden, jeden tylko lud,
„Z polską szlachtą polski lud“!

Не дарма-ж, відаць, эндэцкая партыя так і завецца: „związek ludowo-narodowy“!

# Карэспандэнцыі.

### „Ахвяры на слугаў божых.“

(*Дзісьненшчына*)

Казаць, чытаць і пісаць пра падаткі ўжо на'т апрыкрыла. Апрача гэтых, бяз ліку падаткаў, складалі людзі ахвяры: і на аэрапляны, і на інвалідаў — якія з гэтых ахвяр даставалі хвігу, складалі і на галодных дзяцей, ды і шмат на што. Ці памагло тым, дзеля каго зьбіралі, — ня ведаем, але тым, хто быў бліжэй да „ахвяраў“, дык напэўна памагло не аднаму.

Але гэтае ўсё зьбіралі асобы цывільныя. А цяпераka ўзяліся зьбіраць „слугі божыя“ на „слугаў божых“.

Гэтак нядаўна Віленская кансысторыя разаслала па царквах падпісныя лісты дзеля збору ахвяраў на стыпэндыі студэнтам Варш. правасл. багаслоўскага факультэту. Але напэўна ўсе лісты вярнуцца назад чыстымі. Бо паважаныя ўладыкі і айцы, выбачайце, даваць на нашых сэмінарыстаў, якіх вы перарабляеце ў „polski naród i polski lud“ — мы ня маем ахвоты. Калі яны „польскі народ і польскія людзі“, калі яны б'юць нашых гімназістаў, рвуць нашыя газэты, кідаюць каменьні ў вокны, — дык няхай і на стыпэндыі дзеля іх дае той, хто іх гэтак навучае.

Сорам і ганьба, што з сыноў нашага сярмяжнага народу робяцца ворагі свайго народу, сваей вёскі, сваей мовы і культуры. Дык няма чаго і слаць да нас сваіх падпісных лістоў.

Досыць і таго, што нашыя цэрквы абваліваюцца цякуць, стаяць бяз вокан, але затое колькі кожная царква плоціць за год і насынод, і на кансысторыю, на сэмінарыю, на гімназію Пасьпелавай (з якой нічога супольнага ня маем), на ўсялякія „Чтенія“, на календары ў новым стылю (якія толькі ўкінуць у печ, бо сьвяткуем жа мы пастараму) і г. д. Колькі за год розных збораў на ўсялякія „благотворительныя общества“, ад якіх наш народ ня мае ніякай помачы—бо ізноў ня мае нічога супольнага.

Маем мы свае гімназыі, сваіх студэнтаў, якія не запісываюцца ў „polski lud“, сваіх бедных дзетак сіротак,—дык на гэтых і ахвяруем, чым багаты.

Дык і выбачайце, — няма чаго вінаваціць сані, калі благія самі. А нам, сялянам, пара ўжо прачнуцца і кінуць класьці свае гаротныя грашы на „благотворит. общества“, а пара пачаць складаць іх на нашую родную, бедную вучнёўскую моладзь і на нашых дзетак сіротак. І тыя і другія гаруюць у Вільні. Дык складайма нашыя ахвяры і адсылайма іх у Вільню, у Беларускі Камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны.

Бо моладзь вучнёўская і дзеткі бяспрытульныя — гэта дзеці нашыя-сярмяжныя, гэта фундамант нашае лепшае будучыны.

**Зязюля.**

### Заварушыліся!

(З *Баранавіцкага павету*)

Відаць, пачалі рыхтавацца нашы апякуны да новых выбараў і пачынаюць баламуціць галовы сялянам на розныя лады. 25 студня ў Баранавічах адбыўся зьезд варшаўскай „рады апекі над крэсамі“ і даклады паслоў і сэнатараў Z.L.N. (эндэкаў), на каторым кулікі ня з нашага балота хвалілі яго і казалі: калі сяляне іх падтрымаюць і дадуць магчымасьць ім тут працаваць, то ўсё ў хуткім часе прыдзе да ладу і парадку.

Гэта казалі на дакладзе, а на закрытым паседжаньні „рады апякунчай крэсаў“ яны казалі другое. Нейкі ксёндз меў прамову пабеларуску і скончыў яе так: „беларусы—народ добрый, іх тут большасьць, і з імі трэба лічыцца, прыслухоўвацца да іх, старацца ўсё абяцаць, але нічога не даваць, а калі й даваць, то толькі бізуном у пэўнае месца, на якім сядзяць.

8 сакавіка завітаў да нас і сам так прэзэс „Пяста“, Вітас з былым міністрам яго ўраду п. Кернікам (каб ён так сьпяваў, як у нас, калі быў міністрам!). А дзеля пэўнасьці і каб зрабіць вялікшае ўражаньне, прывезьлі з сабой неякага п. Цявловскага, які на вечы назваўся прэзэсам Беларускага Камітэту ў Варшаве для спраў беларускіх у Польшчы(?).

Вітас, абрысаваўшы сучаснае палітычнае палажэньне дзяржавы, казаў, што ўсе партыі працуюць кепска, што толькі яго партыя стаіць на правільным дзяржаўным грунце, што сойм не адпавядае свайму назначэньню, з вясны трэба яго распусьціць, лічбу паслоў зьменшыць удвая, бо залішне іх многа і надта ўжо шкодны яны для дзяржавы. Новых паслоў трэба выбіраць асьцярожна і толькі адпаведных, каторых „пястоўцы“ скажуць.

Цявловскі пачаў з таго, што ён кепска гавора папольску і толькі добра можа казаць у сваёй роднай беларускай мове; перапрасіў сабраньне, што будзе ў ёй гаварыць, і пачаў хваліць п. Вітаса.

Вельмі я рад—казаў Цявловскі,—што высілкамі п. Вітаса беларусы з палякамі даходзяць да паразуменьня. Бачу ў салі многа сялян, а гэта знак, што цікавяцца лепшымі прадстаўнікамі польскага народу, прыслухоўвуюцца да іх, а з гэтага вынікае, што ня вельмі давяраюць сваім прадстаўнікам, каторыя вымагаюць залішне многа ад ураду Польшчы і кіруюцца на ўсход.

Пасьля яго выступалі некалькі прадстаўнікоў з месц, каторыя хвалілі праграму партыі „Пяст“ і выракаліся другіх партыяў.

Нарэшце ўзяў голас п. Кернік, які даў адказ на ўсе закранутыя прадмоўцамі пытаньні. Ен аблаяў „Вызваленьне“ і беларусаў і на гэтым камэдыя скончылася.

У дзень веча па горадзе былі разлеплены аршынныя адозвы бяз подпісу, у каторых крытыкавалася праца „Вызваленьня“ і яго прадстаўнікоў у Сойме і Сэнаце.

Цікава зьвярнуць увагу на тое, што польскія палітычныя партыі, калоцячыся паміж сабою, ніколі не забываюць на нашых землях беларусаў: яны наймаюць за юдавы срыбнікі прадажных сыноў нашага народу, праваКатараў, каторыя ўдаюць прадстаўнікоў народу Беларускага і туманяць яму галаву.

Адно добра, што народ наш, навучаны бядою, слухаць слухае, але верыць—дык гэным брахунам ня верыць, добра ведаючы, што ў яго ёсьць запраўдныя прадстаўнікі“, каторых ён сам выбраў і паслаў у Сойм і Сэнат дзеля барацьбы за сваю лепшую будучыну, ды ў цяжэйшыя мамэнты свайго жыцьця толькі да іх зварочваецца і ў іх шукаець абароны належных яму правоў.

**Хронос.**

**Ад рэдакцыі**: Як бачым, п. Цявловскі, які „працаваў“ у Горадзенскай дэфэнзыўнай арганізацыі „Беларускіх Актывістаў“, калі яго калегі пасядалі за крымінальная справы ў вастрозе, прыстаў на новую службу да п. Вітоса. Добрага слугу знайшлі паны „пястоўцы“!

### Перавыбары солтысаў.

(*Пацаўская гміна, Слонімскага пав.*).

У вёсках Руда-Яворская, Гірычы, Накрыжкі грамады выбралі новых солтысаў: Руды-Яворскай — Мікалай Сьвятліцкі, Гірычы — Язэп Латушка, Накрыжкі — Сымон Канюшкевіч. Грамады выбралі сабе лепшых людзей. Але Слонімскі староста не зацьвярдзіў новых, а заставіў ранейшых, якіх грамады не хацелі, каб яны былі солтысамі, як варожых да інтарэсаў сваей люднасьці. Так прыкладам: у в. Гірычы солтыс Чыгір, страшэнна лаяў і бэсьціў беларускую школу, якой сяляне ўсімі сіламі дамагаюцца; у в. Накрыжкі солтыс Іван Рымашэўскі агітаваў проці адкрыцьця беларускай школы наагул і баламуціў люднасьць, каб не складалі дэкляарацыяў, баючыся, мусіць, каб яго брат не застаўся без пасады, бо цяпер служыць у польскай школе.

**N.**

### Як вучаць нашых дзяцей.

(З *Слонімшчыны*).

У аўторак 10-га сакавіка с. г. ў тартак „Рафалаўка“ прыехалі два паліцыянты з Жыровіцкага пастарунку: Лісоўскі і № 3021. Чаго яны прыяжджалі, ня ведама. Адно, калі хлопец з Акунінова паказаў на іх пальцам свайму калезе, то паліцыянтам гэта надта не спадабалася. Паклікаўшы яго да сябе і вывеўшы за тартак, паліцыянты атакавалі 15 летняга хлапца:

—Ty, chamie, dziku, ty na kogo palcem pokazywał? Swinie razem paśli? Co?..

Перапалоханы хлопец нічога ня мог да іх гаварыць...

—„Я... я... ня знаў?“...

—„Ty nie znał? My nauczymy!“—і задалі колькі разоў па твару, аж у беднага з вочаў пацяклі сьлёзы.

Пасьля ўзялі за каўнер і папхнулі: „idź, chamie, i pamiętaj“.

—„На што цябе клікалі гэтыя паны?“ — запыталіся калегі.—Э, дык у яго сьлёзы цякуць“.

—„Білі“ працадзіў скрозь зубы хлопец.

—„За што?“

—„Што паказаў Сымону на іх пальцам“.

Так вучаць „інтэлігентнасьці“ нашых дзетак паны паліцыянты, паразганяўшы беларускія школы.

**Вачавідзец.**

## Наша бяда і парада.

(*Хут. „Вострава“, Старавескай гм. Слонімск. пав.*)

З карэспандэнцыі газэты Бел. Доля № 4 за 18 студзеня мы даведаліся, што жыхары в. Доўгае, Наскоўскае гм. Пружанскага пав., бядуюць, што іх парасяты заядаюць панскія сабакі. Дык гэта не бяда. Паноў, здаецца, ня вельмі многа, дык усіх парасят не падушаць. А ў нас, у в. Клімавічах, сталася гарнае гора, бо нашыя парасяты пачаў біць і гатаваць сын кулака, з хутара Вострава, Аляксандар Л. Гэты самы Аляксандар гэтай восеньню, гараў каля Клімоўскае пашы, дый угледзіў парасяты. Мусіць, захацеўшы есьці, клікнуў пастухоў, пасьвіўшых быдла хутаран, і загадаў ім, каб памаглі яму забіць парася. Хлапцы згадзіліся, але-ж ня ўсе, і забілі аж двое; тыя-ж, якія не хацелі біць, былі прымушаны біць хоць ня жывыя. Пасьля біцьця ён узяў ад іх прысягу (як поп, або судзьдзя), што аб гэтым нікому нічога ня скажуць; хто ж скажа, таго ён заб'е, ці павесіць. Напалоханыя хлопцы і маўчалі. Моўчкі зварылі 1 парася ў чыгуне, які прынёс галоўны сьвінабой, і моўчкі зьелі. Другое забраў да хаты гэны сын кулака.

Бедная сірата Савосік пашукала парася, ды не знайшоўшы, паплакала і рашыла: што, мусіць, воўк зьеў. Так і асталася-б бяда на нявінным воўку, каб адзін з пастухоў не пахваліўся сваім таварышам: што вельмі смашная парасяціна. Тут бедная сірата і даведалася, што яе парася зьеў ня воўк, а кулак. Аб гэтым яна заявіла паліцыянту, які апрасіў пастухоў і напісаў пратакол. Дзела пайшло ў суд.

Хацелася-б нашай ваколіцы аслабаніцца ад гэтага воўка, што ня толькі есьць нашы парасята, але і калечыць душы нашых дзяцей, вучачы іх няпрыстойных рэчаў. Дык нам яшчэ горш, як сялянам в. Доўгае, парасяты якія гінуць ад паноў, бо паноў менш, а кулакоў разьвялося ў нас вельмі многа, і цяпер нашым сьвіням, мусіць, прышоў канец.

А дзецям? Што з іх будзе?

Гэта думка нас пужае,
І цяпер мы баімося,
Што дабра не дачжамося
Ад сваіх дзяцей.
Яны будуць, як кулак наш,
Сьвіні біці і варыці...
Пасьля красьці—людзей біці...
Вось чаму нас страх бярэ.
Але-ж чым тут нам парадзіць?
Чым бядзе нам памагчы?
Мусіць, трэба іх вучыці,
Каб бяду прасьцерагчы?
Гэта простае жаданьне,
Але ў ім і ўся бяда:
Не даюць нам роднай школы,
Не даюць паны дабра!..

**Асколак.**

# Беларусы у Латвії.

**Есьць яшчэ судзьдзі ў Латвії!**

Ня гледзячы на агідную ролю латвійскае пракуратуры, якая аказалася паслухмяным арудзьдзем улады, пайшоўшае на сустрэчу польска-маскоўскай інтрызе проці беларусаў,—суд у Дзьвінску **апраўдаў усіх беларускіх дзеячоў**, вінавачаных у процідзяржаўнай дзеяльнасьці з прычыны... ўжываньня ў школах падручніка „Геаграфія Беларусі“ А. Смоліча і карты Беларусі. Найбольш перасьледавала „дэмакратычная“ ўлада Латвії грам. Івана Краскоўскага, Паўліну Мядзёлку, Езавітава, Пігулеўскага, Якубецкага. Езавітаў доўгі час—ажно да суда—прасядзеў у вастрозе, бо ўлада гэтак хацела пазбавіць яго магчымасьці працаваць.

## Сонца у турме.

Сяньня ты, сонца, і сьвежа і чыста.
Паміж мной й табою ня рудзее дым.
З блакітных глыбінаў глядзіш ты іскрыста,
Нібы-та спыпіўшысь над вакном маім.
Пад твае праменьні я твар падстаўляю.
Праз краты, праз шыбы, праз зімнае шкло
Асьвяці, сагрэй ты... Чуеш? Заклікаю!—
Дай мне далучыцца да жыцьця усяго!
За мурамі, побач, крычыць і сьмяецца,
І сьпявае гімны верабіны хор.
Пад рытм іхнім сьпевам моцна сэрца б'ецца,
Сьніць лясоў гушчары і палей прастор.

**К. Езавітаў.**

22. II. 25 г.
Рыга. Цэнтр. турма.

# Юрыдычныя парады.

**Пытаньні:**

1) Ці можа (і калі так — паказаць закон) пазваная старана трэбаваць на Судзе ў Міравога Судзьі (ці ў другім якім мейсцы,) каб ён пачаў разбор справы, не чакаючы яўкі на суд пазываючага, калі той не явіўся на Суд у назначаны час, — бо былі ў аднаго Міравога судзьдзі такія выпадкі, што болі 10 названых, прыбыўшых у суд за 20 вёрст, **другі ўжо раз** (першы раз разбор справы быў адложаны за няяўкай на гэты Суд сьведкі—абшарніцкага лясніка) у 9 гадзіне раніцай застаўлены былі гэтым судзей **чакаць да 12 гадзіны паўдня**, г. ё. цэлыя 3 гадзіны пакуль **„ізволіў пажалаваць“ панскі слуга—камісар, пражываючы ад суда ў 1-1½ вярсце.**

Ці тасуецца гэты закон умоўна, г. ё. ці можна трэбаваць гэтага пазванай старане, явіўшыся на Суд 1-ы раз, ці гэта можна патрэбаваць толькі, явіўшыся на Суд ажно 2, 3 і г. д. раз?

2) Ці можна (і калі так — паказаць закон) пазванай старане прасіць Суд, каб перад допросам гэтым судом сьведак з боку пазванага—былі дапрошаны сьведкі з боку пазваўшага. Справа была адложана ўжо 2 разы: 1-ы раз за неяўкай сьведкі з боку пазываючага, а другі раз—з боку пазванага.

3) Ці можа (і калі так—паказаць закон) пазваная старана прасіць Суд дапрасіць яе сьведак у такім выпадку, калі за няяўкай у Суд пазваўшага, справа падлягае спыненьню—гэта дзеля таго, каб допрос гэтых сьведак мог прыгадзіцца на выпадак, калі праз нейкі час пазваўшы ізноў нанова пачне ў Судзе гэту самую справу, а тым болі калі гэтыя сьведкі пражываюць далёка ад Суда, напрыклад, у 20 вярстох.

4) Ці можа (і калі так—паказаць закон) пазваны, апраўданы па Суду, спагаляць з пазваўшага яго, за яго ілжывыя паказаньні свой кошт, зьвязаны як з асабістай яўкай самага пазванага, так і яго сьведак, калі яўкі гэтыя мусілі былі быць дзеля доказу няправільнасьці ўзьведзенага з боку пазываючага абвіненьня? Калі так—паказаць спосаб, разьмер, парадак гэтага спагону?

5) Якія фармальнасьці трэбуюцца дзеля таго, каб прыцягнуць да законнай адказнасьці сьведку за ілжывую яго прысягу і куды трэба падаваць скаргу на гэтага сьведку, ілжыва прысягаўшага на судзе ў Міравога Судзьзі? Якая павінна быць за гэта кара?

6) Ці можна (і калі так—паказаць закон) прасіць Суд запісаць у рашэньне Суда, заместа аб'ясьненьня на славах, сваё матываванае прашэньне на пісьме і ці патрабуецца за гэткае прашэньне гэрбавы збор і сколькі?

7) Ці ўсякага крымінальнага абвінавачанага можна ўзяць на парукі і калі так, то які разьмер залогу на паручыцельства?

8) Ці ёсьць ясныя доказы ў Законе аб тым, за якую віну трэбуецца паручыцельства на нярухомую маемасьць і за якую віну—толькі грашавое?

9) Ці ўваходзе ў вартасьць залогу пад паручыцельства нярухомая маёмасьць (зямля, будынкі) самага абвінавачанага, ці залог гэты павінен складацца толькі з названай маёмасьці яго паручыцеляў?

10) Якія трэбуюцца фармальнасьці дзеля зьдзейсьненьня гэтага паручыцельства?

11) Ці можа быць такое, напрыклад, паручыцельства: некатарая часьць на чыстыя грошы, а некатарая часьць на нярухомую маёмасьць?

12) Ці можа (калі так—прашу паказаць закон) залог пад паручыцельства за абвінавачанага складацца з маемасьці некалькіх гаспадароў, напрыклад, 3-4, даўшых пад залог па палове дзесяціны сваей зямлі?

**Адказы:**

1. Можна (ст. 145, Уст. Цывільнага Судаводзтва)
2. Можна.

3 і 6. Не.

4. Трэба было прасіць суд, каторы пастанавіў рашэньне, каб засудзіў кошты, калі гэтае ня было зроблена, можна падаваць у суд асобна, аблічыўшы, якія былі расходы казённыя і інш.

5. Трэба падаць жалабу да Пракурора Акружн. Суда.

7. Усё залежыць ад Судзьзі, або сьледчага.

8. Есьць: калі вышэйшая кара—турма або крэпасьць, то можна браць залог грашыма (kaucja), за меншыя можна парукі, але ўсё залежыць ад Судзьдзі чы Следчага.

9. Злажыць залог або ўзяць на парукі можа кажды; сам абвінавачаны можа злажыць толькі залог.

10. Ніякіх такіх фармальнасьцяў няма; трэба таму, хто кладзе залог, або бярэ на парукі, явіцца да Судьдзі Следчага, а яны самі сьпішуць пратакол.

11, Дзяліць так ня можна.

12. На парукі можна ўзяць адзін, або колькі гаспадароў.

**Падпішчыку № 730.** Тэстамант трэба прадставіць у Акружны Суд на зацьверджаньне не пазьней, як у працягу году ад дня сьмерці таго, хто тэстамант пакінуў. Чыя была зямля: маткі, ці бацькі? Калі бацькаўская, дык матка ня мела права яе адпісываць.

**Падпішчыку № 1372.** Няма ведама, якая гэта „адпіска“ і калі памерлі брат і яго сын; бяз гэтага ніякага адказу даць нельга.

**Падпішчыку № 219 у Заборцах,** Пархвенаўск. вол.—Пакуль-што **не!**

**Падпішчыку 762.** Ні грошы, ні спадчыны дахадзіць ужо ня можна, бо зайшла даўнасьць (больш 10 галоў).

**Камяла.** Можна даходзіць судом сёмую часьць зямлі, што належала да нежанатага брата.

**Тутэйшаму селяніну ў Глыбоцкай гміне.** Пакуль-што такога закону йшчэ няма.

**Віршычу—у Забярэзі.** Калі жыхары вашае вёскі былі даўней „государственными крестьянами“ (казёнными), і права рыбнае лоўлі не паказана ў вашых дакумэнтах, дык права гэтае належыць да казны. Калі-ж яны былі дворнымі, і гэтае права ня ўпісана ў выкупны акт, дык яно належыць да двара (рашэньне расейскага сэнату за 1883 г. № 10).

**Язепу Жалейцы.** Згодна з распараджэньнем Прэзыдэнта Рэспублікі з 14. V. 1924 г., за 736 р. павінны выплаціць вам каля 98 злотых.

# Усячына.

**Лёс манархаў.**

Адзін гісторык палічыў, што да нашых часоў на сьвеце панавала 3.120 каралёў і цароў (ведамых). Вось-жа цікава, які быў іх лёс.

Аказваецца, што 32 скончылі самагубствам, 33 памерлі сьмерцяй мучанікаў, 58 зракліся самахоць свойго пасаду, 140 палягло ў бітвах, 183 памерлі ў няволі, 252 былі забіты, 168 — засуджаны і пакараны сьмерцяй, 540 скінуты з трону сілай, 22 звар'яцелі.

Гэтак, блізу палова ня прыждала натуральнае сьмерці на троне. Відаць, панаваньне над народамі—ня надта пэўны і бясьпечны інтэрас!

# Паштовая скрынка.

**Усім нашым карэспандэнтам.** За час, калі газэта выходзіла раз на тыдзень, мы ня мелі магчымасьці зьмяшчаць тую вялізарную масу карэспандэнцыяў, якія што-дня атрымліваем. З гэтае прычыны іх набралася дужа многа.

Дзякуючы нашым карэспандэнтам за іх працу і весткі, мы даем ім гэтае выясьненьне прычыны, якая не дала нам магчымасьці выкарыстаць у свой час іх багатыя матэрыялы. Пастараемся ў далейшым патроху друкаваць тое з нашага запасу, што ня страціла вартасьці ад спазьненьня.

**Почта Вялікая Бераставіца „Гуртку беларусаў“.** На просьбу „Гуртка“ ад 8. II. 1925 г. думаем, што калі-б удалося што зрабіць пад тым „Шыльдам“— варта папрабаваць.



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.